PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 6 (1812) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 10 ЛЮТАГА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



*Зімовы фотаэцюд.* *Фота У. Завадскага.*

# АПОШНІ ЛІСТ АЛЯКСАНДРА УЛАСАВА

Пакуль пісаць пра апошні ліст А. Уласава, трэба напачатак сказаць чытачу што-небудзь пра яго біяграфію. На жаль, яна амаль не даследавалася. А быў час, калі А. Уласава называлі „беларускім вядомым дзеячам“, калі пісалі, што разам з братамі Луцкевічамі складае „кіруючую тройку „Нашай „Нівы“ (нават супольны іх здымак захаваўся). Але ў апошнія дзесяцігоддзі амаль **нідзе** пра яго не пісалася. Толькі ў 1987 (!) годзе ў „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі“ (у 5 томе) з'явілася кароценькая біяграфічная занатоўка, настолькі павярхоўная, што прапаную чытачам іншую (таксама кароткую, але больш цікавую) біяграфію з 1928 года. З 1922 года А. Уласаў быў сенатарам Рэчыпаспалітай і яго біяграма была памешчана ў кнізе „Parlament Rzeczypospolitej 1919—1927, pod redakcją profesorów Henryka Mościckiego i Włodzimierza Dzwonkowskiego“, Warszawa 1928, s. 343.

Біяграма даецца поўнасцю.

„**Własow Aleksander,** publicysta, ur. w r. 1874 w Wilnie, syn Mikity i Heleny z Kanczewskich, Białorusinów. Początkowo w dzieciństwie wychowywał się na wsi. Uczył się w szkole realnej w Libawie, następnie ukończył wydział mechaniczny na Politechnice Ryskiej. Od lat najmłodszych zajmowała go sprawa odrodzenia narodu białoruskiego, której się też całkowicie poświęcił. Specjalnie zajmowała go sprawa ekonomii. W roku 1901* założył pierwsze pismo białoruskie „Nasza Niwa“. Ogłosił cały szereg prac ekonomicznych, jak np.: „Wieś wzorowa“, „Białoruś i Litwa“; studium ekonomiczne: „Budżety gmin, miasteczek i miast“, „Kwestia rolna na Białorusi“, „Białoruski przemysł ludowy“ i inne. W roku 1905 wystąpił przeciwko caratowi jako członek Centralnego Komitetu Rewolucyjnej Hromady Białoruskiej. Wydawał proklamacje antyrządowe w języku białoruskim. Ścigany przez władze carskie, ukrywał się w Mińsku rok cały. W r. 1910 w Wilnie za artykuł o wyborach do 1-ej Dumy odsiadywał 4 miesiące twierdzy. Za agitację podczas wyborów do II Dumy rządy carskie ukarały go znowu więzieniem. W roku 1913 założył rolnicze pismo białoruskie „Socha“. Po wojnie światowej, którą odbył służąc w saperach piastował w Mińsku urząd marszałka Rady republiki ludowej białoruskiej (BNR). Następnie jako jeden z pięciu członków, wszedł do składu najwyższej Rady białoruskiej. W roku 1920 założył w Radoszkowiczach białoruskie gimnazjum im. Fr. Skoryny. Jest prezesem Tow. szkoły biał. i Biał(oruskiego) Nar(odowego) Kom(itetu) w Warszawie. Wybrany został na senatora do Senatu w roku 1922 (lista mniejsześci narodowych nr 16)“.

З гэтай кароткай біяграфічнай занатоўкі відаць, што А. Уласаў прымаў удзел у найважнейшых падзеях у беларускім руху таго часу, быў актыўным членам многіх беларускіх арганізацый. У прыведзенай біяграфіі пра А. Уласава гаворыцца як пра публіцыста, хаця быў ён і рэдактарам і выдаўцом. Пісаў не толькі публіцыстычныя артыкулы. Напрыклад, вядома, што ў 1936 годзе вы-

(Працяг на стар. 6)

## Польскае беларусазнаўчае таварыства

У чэрвені мінулага года ў Варшаве, на Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны, беларусісты розных краін вырашылі стварыць Міжнародную асацыяцыю беларусістаў. Устаноўчы з'езд МАБ запланавана правесці ў 1991 г. у Мінску. У дэкларацыі аб утварэнні МАБ (яе тэкст друкаваўся ў „Ніве“ № 26 ад 1.07.1990 г.) быў змешчаны заклік ствараць нацыянальныя і рэгіянальныя камітэты асацыяцыі.

Па ініцыятыве Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Лабараторыі беларускай мовы Інстытута славяназнаўства ПАН 22 студзеня г.г. у Варшаве адбыўся навуковы сход, прысвечаны пытанням беларусазнаўства. Удзельнічалі ў ім беларусісты з амаль усіх навуковых цэнтраў нашай краіны.

Сход закончыўся стварэннем Польскага беларусазнаўчага таварыства. Яго мэтай, чытаем у статуце, з'яўляецца:

— інспірацыя, каардынацыя і падтрымка для беларусазнаўчых даследаванняў над гісторыяй, культурай, літаратурай, мовай, фальклорам і грамадскім жыццём беларускага народа з асаблівай увагай для польска-беларускіх адносін і пытанняў польска-беларускага моўнага і літаратурна-культурнага сумежжа,

— пашырэнне ведаў аб культуры, гісторыі, літаратуры, мове, фальклоры і сучаснасці беларускага народа ў польскім грамадстве.

Членамі ПБТ могуць быць навуковыя і навукова-дыдактычныя работнікі, літаратары, настаўнікі, перакладчыкі, супрацоўнікі культурных, асветных і выдавецкіх устаноў, а таксама іншыя асобы, у якіх ёсць навуковыя і папулярызатарскія дасягненні ў галіне беларусазнаўства.

Старшынёю Управы ПБТ выбраны **праф. Альберт Барташэвіч,** а сакратаром **д-р Надзея Панасюк** (абое з Варшавы). За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца па адрасу: **Polskie Towarzystwo Białorutenistyczne, 02-678 Warszawa, ul. Szturmowa 3, pokój 520.**

**В. Луба**

## На мяжы

— 25 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

На працягу многіх гадоў прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў і Аддзела ўнутраных спраў пры Ваяводскай радзе нарадовай у Беластоку стараліся накіраваць беларусаў супроць беларусаў. Памятаю чатыры такія выпадкі. Першы датычыў асобы нябожчыка Кастуся Сідаровіча, які быў нашым актывістам і моцна акцэнтаваў сваю варожасць да камунізму і да Савецкага Саюза. Прадстаўнікі названых устаноў стараліся падгаварыць многіх дзеячоў БГКТ, каб яны публічна ў пісьмовай або прынамсі вуснай форме асудзілі Кастуся Сідаровіча. Аднак не ўдалося скалаціць хаця б найменшую групу, якая выступіла б з якой-небудзь заявай.

Другі выпадак быў звязаны з асобамі Мікалая Калядкі і Кастуся Майсені, дзеячоў з Бельска-Падляшскага. Гэты выпадак вельмі адрозніваўся ад першага. Тут атаку супраць Калядкі павёў беларускі дзеяч, якога назавем Іксам. Пан Ікс даведаўся, што Калядка меў у сваёй бібліятэцы кніжачку „Гісторыя Беларусі ў картах“, наколькі не памыляюся, выдадзеную ў Берліне ў 1943 г. У нашай хаце ў час акупацыі была гэта тоненькая кніжыца, а мо лепш сказаць, сшытак. Адкрываў гэты шапірографны сшытак верш Купалы, які пачынаўся ад слоў „Панам быў дома і панам за домам мой патаптаны нявольны народ“. На далейшых старонках былі карты паасобных старабеларускіх княстваў. Быццам бы ў экземпляры Мікалая Калядкі быў яшчэ ўклеены адзін з вершаў Л. Геніюш, напісаны ў час акупацыі. Які — не ведаю. І вось пан Ікс звярнуўся да Калядкі, каб яму пазычыў „Гісторыю...“, бо яна яму, маўляў, патрэбна для навуковай працы. Калі лёгкаверны Калядка кніжку пазычыў, Ікс занёс яе ў бельскую бяспеку і заявіў, што Калядка распаўсюджвае фашысцкую літаратуру. Бельскія ўлады моцна ўзяліся за Калядку. Выкінулі яго з партыі, выкінулі з работы ў Нарадовай радзе — і Калядка пайшоў працаваць у меліярацыю — капаў равы. Не забуду цікавага моманту. У Беластоку, у ГП БГКТ праводзіўся сход. Я спазніўся. Сеў на драўлянае крэселка. Раптам павярнуўся да мяне чалавек і ўсміхнуўся сваёй лісінай усмешкай. Быў гэта пан Ікс. Прайшло мінут пяць і пан Ікс зноў павярнуўся да мяне і ўручыў мне маленькую пісульку. Я разгарнуў яе і прачытаў: „Алесь, я па-другому не мог, што ты думаеш аб маім учынку?“ Нешта шалёнае ўступіла ў маё сэрца і я на той жа картачцы напісаў: „Аб учынку Іуды аднолькава думаюць і атэісты і хрысціяне“. Падаў я Іксу пісульку. Ён прачытаў яе, падскочыў, пасля згорбіўся і на працягу некалькіх месяцаў да мяне не адзываўся. Гэта не значыць, што пачаў шкадаваць свайго ўчынку. Чуў я ад многіх беларускіх дзеячоў, што Ікс там-сям заяўляў: „Яшчэ адна свалата, Майсеня, ходзіць бяскарна па свеце“.

І гэтым разам прадстаўнік Аддзела ўнутраных спраў у Беластоку М. Куц збіраў беларускіх актывістаў і намаўляў іх „да калектыўнага пратэсту“. Тут удалося яму дасягнуць мізэрны эфект. У ГП БГКТ быў скліканы сход, у якім удзельнічаў, апрача Куца, высокі прадстаўнік Ваяводскага камітэта партыі, наколькі не памыляюся, называўся ён Карольчук. Доўга ён гаварыў аб нацыяналізме Майсені і аб тым, што трэба яго асудзіць і ад яго адрачыся. Мы слухалі моўчкі, і калі толькі Карольчук скончыў і Майсеня сказаў некалькі слоў у сваю абарону, раптам ускочыў адзін з высокапастаўленых беластоцкіх дзеячоў і крыкнуў: „Wy, Mojsienia, jesteście naprawdę nacjonalistą, przecież wy ze swoim kierowcą rozmawiacie po białorusku!“. Мяне ўзарвала і я сказаў, што думаю аб такіх ацэнках. Не буду паўтараць свайго выказвання, бо выглядала б гэта на хвальбу. Калі нехта хоча ведаць дэталі, хай звернецца да Майсені. Ён раскажа: ніякае асуджэнне, рэзалюцыя супроць Майсені не была прынята, і Куц з Карольчукам адыйшлі, моцна незадаволеныя. Аднак гэта не значыць, што я Майсені дапамог. Пачалі яго праследаваць, пагналі з работы, ачарнілі.

Так ці інакш, як у выпадку Сідаровіча, так і ў выпадку Майсені, хаця да іх крыўды прычыніліся два дзеячы БГКТ, не ўдалося прадстаўнікам улад арганізаваць „калектыўнае асуджэнне“ з боку большай групы беларускіх дзеячоў. І гэта залічаю не да сораму, а да гонару.

**Алесь Барскі**

## ЗАПРАШАЕМ НА АГЛЯД

**Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку запрашае ўсіх сімпатыкаў беларускай песні на цэнтральны агляд „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '91“, які будзе праводзіцца на працягу двух дзён у Беластоцкай філармоніі:**

**— 16 лютага, а гадз. $10.^{00}$ — пачнецца конкурсны агляд салістаў і калектываў з Беласточчыны**

**— 17 лютага, а гадз. $14^{00}$ і $17^{00}$ адбудуцца два канцэрты лаўрэатаў, у якіх як госці выступіць калектыў „Церніца“ з Мінска.**

**Білеты можна купіць у ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11 у гадз. 8—15, тэл. 435—118.**

## ЗАЯВА

**З неспакоем успрынялі мы змест выяўленай паслом У. Цімашэвічам інфармацыйнай нататкі аб палітычнай сітуацыі і польска-беларускіх дачыненнях на этнічным памежжы на Беласточчыне ўвосень 1990 г., складзенай працаўнікамі Міністэрства замежных спраў. Гэты дакумент, намерана засакрэчаны і скіраваны да ведама невялікай групы асоб, што ўзначальваюць цэнтральныя дзяржаўныя органы і ўстановы, прадстаўляе вобраз сітуацыі і польска-беларускіх стасункаў на Беласточчыне надзвычай аднабакова і ў сваім выгуку сведчыць пра тое, што чаканыя беларусамі дэмакратызацыя жыцця ў краіне ды ачышчэнне тых стасункаў ад напластаваных гадамі прадузятасці і недаверу не з'яўляюцца мэтай цяперашняга эшалону ўлады. Аўтары ўспомненага дакумента недвухсэнсоўна намякаюць, што беларусы Беласточчыны з'яўляюцца чужым целам у польскім дзяржаўным арганізме, больш таго, яны даюць зразумець, што беларусы — гэта інструмент палітыкі чужой дзяржавы і — у выніку — пагроза дзяржаўным польскім інтарэсам.**

**Палітыка грамадскага адчужвання людзей іншай нацыянальнасці і іншага веравызнання ў польскай дзяржаве беларусам вядомая аж занадта з балючага гістарычнага дасведчання. Горыч выклікае сітуацыя, калі новыя сілы ва ўладах Рэчыпаспалітай штораз часцей і больш ахвотна спасылаюцца на няслаўныя ў гісторыі краіны традыцыі нецалерантнасці, традыцыі, якія прадстаўляюць беларуса як патэнцыяльнага і рэальнага ворага польскай дзяржавы. Горыч выклікае таксама факт, калі з дэмакратычна выказанай волі беларускай грамадскасці ў прэзідэнцкіх выбарах беларусам робіцца палітычны закід у нелаяльнасці дзяржаве і ў іхняй палітычнай няспеласці. У выснове, якая датычыць умяшання апарату ўлады ў стварэнні беларускіх палітыкаў, на поўны голас гучыць тон палітычнага аўтарытарызму дзяржавы ў адносінах да сваіх грамадзян, такі характэрны нядаўна мінулым гадам.**

**Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне лічыць, што дэмакратызацыя жыцця ў краіне неадкладна патрабуе нармальных польска-беларускіх дачыненняў у духу ўшанавання і поўнага зразумення палітычных, гаспадарчых і культурных памкненняў тае часткі беларускага народа, якая пражывае ў межах Рэчыпаспалітай. Згаданы дакумент МЗС, які назначае дзяржаве ролю віжа і апрычніка беларускай грамадскасці, гэтай нармалізацыі ніяк не служыць.**

**ЯН МАКСІМЮК,
ПРЭСАВЫ ПРАДСТАЎНІК
БЕЛАРУСКАГА
ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАННЯ**

## З мінулага тыдня

**Злучаныя Штаты Амерыкі і Савецкі Саюз** заявілі, што двухбаковыя размовы, якія былі запланаваны ў Маскве на 11—13 лютага г.г., адтэрміноўваюцца з прычыны вайны ў Персідскім заліве.

**Войскі савецкага Міністэрства ўнутраных спраў пакідаюць Літву.** Прэзідэнт ЗША Д. Буш заявіў, што савецкае кіраўніцтва абяцала вывесці частку войскаў, узнавіць дыялог з рэспублікамі і не прымяняць сілу.

**Аб скарачэнні вайсковай службы да 12 месяцаў** паінфармаваў міністр нацыянальнай абароны **Пётр Каладзейчык.**

**Савецкія грамадзяне штораз часцей бяруцца ў нас нелегальна за працу.** Працуючы ў Польшчы, можна зарабіць на працягу месяца ў пяць разоў больш, чым у сябе, хаця атрымоўваюць яны меншую ад польскіх рабочых плату.

**Канстытуцыйны трыбунал** пастанавіў, што інструкцыя Міністэрства нацыянальнай адукацыі аб вяртанні рэлігіі ў школы з'яўляецца згоднай з правам і канстытуцыяй.

**Зладзеі, якія абакралі царкву ў Арэшкаве, знаходзяцца ўжо ў арышце.** Паліцыянт, які вяртаўся са службы цягніком, заўважыў трох мужчын з трыма вялікімі пакункамі. Мужчыны паводзілі сябе падазрона і выйшлі на станцыі Вітава. Паліцыянт з дапамогай чыгуначных ахоўнікаў вырашыў скантраляваць гэтых падарожных. У сумках знаходзілася літургічнае начынне, евангелія, ікона, крыжы, украдзеныя з царквы ў Арэшкаве.

**У Бельску-Падляшскім ужо другі раз быў аганьбаваны помнік, прысвечаны паліцыянтам,** якія загінулі ў час II сусветнай вайны.

**Раённыя элімінацыі да конкурсу „Беларуская песня '91“** адбыліся толькі ў Беластоку і Гайнаўцы. З іншых раёнаў выканаўцы прыедуць адразу на цэнтральны агляд.

**Маладажонам**

**АЛЬЖБЕЦЕ ШУЛЬЖЫК**

**і**

**ЮРКУ ГРЫЦУ**

**усяго найлепшага на новай дарозе жыцця жадаюць**

**супрацоўнікі ГП БГКТ і „Нівы“.**

## Неспакойны новы год

Хто як сустракаў праваслаўны Новы год (14 студзеня), а сябры БНФ „Адраджэнне“, клубаў „Узгор'е“ ды „За дэмакратычныя выбары“ разам з іншымі віцяблянамі адзначылі яго надыход, выразіўшы на народным сходзе пратэст супроць „падарунка“, які паднеслі вайскоўцы Савецкае Арміі літоўскаму народу ў трагічную ноч з 12 на 13 студзеня.

Сваю пазіцыю жыхары Віцебска вызначылі плакатамі „Спыніць агрэсію супроць Літвы“, „Далоў маскоўскую імперыю з Літвы і Беларусі“ і т.п., а таксама лістом прэзідэнту Савецкага Саюза, у якім гаворыцца: „Мы лічым, што кровапраліцце, якое адбылося ў ноч з 12 на 13 студзеня ў Літве, нанесла адчувальную шкоду сяброўскім стасункам народаў СССР і Літоўскае Рэспублікі. Такія ваенныя ўмяшанні ігнаруюць нормы міжнароднага права, садзейнічаюць вяртанню рэакцыі ў СССР“.

У тсй жа дзень, але раней, частка працаўнікоў буйнога віцебскага прадпрыемства „Мегом“ выказала свае адносіны да падзей у Вільні на мітынгу, які асудзіў дзеянні савецкіх войскаў.

**Юрась Сцяпанаў**



### НАШ ПАТРЫЯТЫЗМ

Слабы ён у нас, бо ці можна назваць патрыятызмам тое, што адзін аднаго гатовы ў лыжцы вады ўтапіць? Альбо тое, што людзям хапае грошай на ўсякія дурніцы, а вось на выпіску „Нівы", кніжнага календара, ці выданняў „белавежцаў" — грошай няма! Нашы беларусы настолькі абыякавыя да гэтых спраў, што падобных ім цяжка знайсці ў свеце. Яны „героі і патрыёты" ў грызні і баязлівай нянавісці да іншых нацый, каталіцызму і новага польскага ўрада. Але які бы ні быў той урад, то ён, аднак, пайшоў нам на руку ў справе праваслаўных святаў — вучні нашых школ былі звольненыя з заняткаў на час Калядаў, не працавалі таксама некаторыя іншыя ўстановы. Што, мо гэта дрэнна? Пры камуністах гэткі падыход да справы быў цалкам немагчымы. Праўда, я пісаў, што „адважныя" дырэктары маглі на ўласную адказнасць і рызыку звальняць вучняў з заняткаў. Тут, аднак, я памыліўся, бо такіх выпадкаў у нас не магло быць. Усе, як агню, баяліся таталітарызму. У святочны перыяд усе настаўнікі прысутнічалі ў сваіх школах і, у выніку, былі „чыстыя" перад партыяй і куратарыяй, а факт, што вучні праводзілі святочныя дні ў хаце, мог іх толькі цешыць. Такая была праўда!

Спадар Бутайла („Ніва", 6.01.1991) стараецца апраўдаць мінулае і піша там, што і калісьці на старонках „Нівы" паяўляліся бацюшкі, а здымкі царкваў віднелі нават на першай старонцы ды гэтаму падобнае. Праўда, яны былі! Але была гэта выключна камуністычная прапаганда, каб адвесці зрок і нічога болей. Бутайла, відаць, і мяне мае на ўвазе, бо калісьці мой здымак і характарыстыка таксама былі змешчаны ў нейкім кніжным выданні календара (а я ж цяпер такі вораг беларушчыны!). Барані Божа ад такіх здымкаў і пахвалы. Калі я ўбачыў сябе ў гэтым календары, дык мала не самлеў ад жаху. Глядзела на мяне нейкае страшыдла (а гэта ж я!). Хутчэй за ўсё была гэта крытыка, а не пахвала. Гэта, аднак жа, ужо мінулае ды можна яго глупствам назваць. Што ж, спадар Бутайла і яму падобныя стараюцца не падрываць нядаўні таталітарызм, а заадно ў вачах цяперашняга часу адпаведна паказацца. Гэта ўжо не геройства і не патрыятызм. Так мне здаецца. Гэта падвойная гульня. На шчасце, аднак, і сярод нас сустракаюцца героі і патрыёты, бо калі б іх не было, дык мы ніколі не мелі б музея ў Гайнаўцы, „Нівы", „Белавежы", БГКТ...

Паўтараю яшчэ раз: замала ахвярных людзей сярод нас. Трэба, каб кожны беларус у Польшчы ахвяраваў гэтых 10, ці 20 тыс. на музей у Гайнаўцы, альбо на літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Дзеля гэтага, аднак, неабходная еднасць, пашана да сваёй гісторыі і культуры, трэба жыць як адна сям'я і цвяроза глядзець на праявы нашага бурлівага часу ды не пхацца назад, у дрыгву камунізму, бо яшчэ не высахла яна. Звяртаюся з заклікам да ўсіх беларусаў і людзей добрай волі: не дазвольма, каб загінула наша родная мова. Няхай расце і квітнее „Белавежа" і ейны плён — цудоўныя кнігі. Пасылайце свае ахвяраванні на гэты вось рахунак: **PBK, I Oddział Białystok, Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża", 370406-200107-132.**

**Мікалай Панфілюк**



„Ніва" 10.II.1991 г.




*Беласток, вул. Млыновая. Малюнак У. Петрука.*

# Невядомыя літаратуры

Месяцаў пару назад прафесар польскай літаратуры Ялянта Брах-Чаіна запрапанавала мне скласці нешта накшталт спіску пазіцый з беларускай літаратуры, якія маглі б увайсці ў праграму навучання літаратуры пачатковых школ і ліцэяў у Польшчы. Задума была такая: паспрабаваць прабіць у камісію па школьных праграмах Міністэрства нацыянальнай адукацыі ідэю ўвядзення ў праграму навучання літаратур нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Аднанацыянальная праграма польскай літаратуры ў школах не дазваляе вучням зразумець усю абумоўленасць развіцця польскай літаратуры, якое адбывалася на перакрыжаванні шматлікіх культур: польскай, яўрэйскай, літоўскай, украінскай і беларускай. Нацыянальныя літаратуры літоўцаў, беларусаў і украінцаў не існуюць у школьных праграмах у Польшчы і, як вынік, амаль непрысутныя ў шырэйшай грамадскай свядомасці. Гэтая сітуацыя не спрыяе таксама перамагаць стэрэатыпы ў дачыненнях палякаў са сваімі нацыянальнымі меншасцямі.

22 студзеня ў Варшаве адбылася сустрэча аўтараў прапанаваных праграмаў з літаратуры нацыянальных меншасцяў: яўрэйскай (І. Мацяеўская, Я. Брах-Чаіна), украінскай (В. Назарук, Л. Стэфаноўская), беларускай (Я. Максімюк). Прысутны на сустрэчы настаўнік польскай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, характарызуючы ліцэальную праграму навучання літаратуры, пацвердзіў мае ранейшыя сумненні наконт таго, ці магчыма ў перагружанай праграме зазначыць прысутнасць вышэй згаданых літаратур у якасці большай, чымсьці сігнальная. Другая канцэпцыя — увесці ў нейкім класе асобны прадмет: „літаратура нацыянальных меншасцяў" — пры цяперашняй нагрузцы ў школе таксама мала рэальная. Прыйшлося вырашаць так: з аб'ёмістых спіскаў (асабліва маюцца тут на ўвазе яўрэйскі і ўкраінскі, беларускі быў намнога больш сціплы і рэальны) давялося выбраць па некалькі прозвішчаў і прапанаваць іх праграмнай камісіі Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Поўныя праграмы маюць паслужыць у складанні анталогіі перакладаў з яўрэйскі (на мове ідыш), украінскай і беларускай літаратур, якая магла б стацца нейкай факультатыўнай хрэстаматыяй тэкстаў у школьным карыстанні. Я асабіста лічу такую хрэстаматыю намнога больш рэальнай, чымсьці ўвядзенне хоць аднаго аўтара з беларускай ці ўкраінскай літаратур у абавязковую праграму навучання літаратуры ў польскіх школах.

Некалькі слоў пра прапановы да праграмы з майго боку, гэта значыць, з беларускай літаратуры. Я прапанаваў дзевяць прозвішчаў: Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Алесь Разанаў (Беларусь), Масей Сяднёў і Наталля Арсеннева (эміграцыя), Сакрат Яновіч і Ян Чыквін (Беласточчына). Зразумела, што калі будзе патрэба (гэта значыць — месца ў анталогіі), гэты спісак можна будзе пашырыць. Пад развагу Міністэрству нацыянальнай адукацыі (прапанова да абавязковай праграмы) я падаў вершы Купалы „А хто там ідзе?", „Сярод раз'юшаных сатрапаў...", „Папросту", „Беларушчына", „З вячэрніх дум" ды эсэ Сакрата Яновіча „Беларусь, Беларусь". Кіраваўся меркаваннямі, якія ў некалькіх словах можна выказаць так: калі ўвогуле каму-небудзь знойдзецца месца ў праграме, дык нікому яно не належнае так, як Купалу. Калі б было магчымым увесці і другога беларускага аўтара, дык эсэ С. Яновіча мае тую перавагу перад усім іншым, што датычыць польска-беларускіх сувязяў і дачыненняў, а значыць, запаўняе той неверагодны прабел у грамадскай свядомасці Польшчы, які звязаны з Беларуссю і яе гісторыяй ды культурай.

**Ян Максімюк**




**Добры дзень, паважаная „Ніва"!**

Да вас звяртаецца Лявон Шацько з Мінска. З вялікім інтарэсам чытаю вашу газету. Лічу, што вельмі важным сёння з'яўляецца ўсталяванне кантактаў паміж суайчыннікамі. Гэтай высакароднай справе можа паслужыць і газета.

Коратка пра сябе. Мне 33 гады. Я матэматык. З'яўляюся сябрам Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Маю вельмі шырокае кола інтарэсаў: гісторыя, мовазнаўства, палітыка, рашэнне шахматных кампазіцый. Хачу завязаць перапіску з суайчыннікамі з Беласточчыны. Адкажу на ўсе пісьмы. Пазнаёмлю з сябрамі суполкі ТБМ „Пярэспа", у склад якой я ўваходжу.

**Лявон Шацько**

**220055, Беларусь, г. Мінск, вул. Рафіева, 15-34**

* * *

**Паважаная рэдакцыя „Нівы"!**

Раней, калі гэта было магчыма, мы чыталі „Ніву" і зараз вырашылі звярнуцца да Вас. Мы даўно ўжо хацелі весці ліставанне з беларускай сям'ёй з Польшчы. Я працую настаўніцай пачатковых класаў, мой муж інжынер. Нам 29 і 32 гады, нашаму сыну 6 год.

Мы маглі б пісаць на беларускай мове, а атрымліваць лісты на беларускай, польскай ці англійскай мовах.

Наш адрас:
**220125, БССР, Мінск-125, п/с 43. Наталля Кузняцова.**

# ПАДЗЯКА

Дырэктар Гайнаўскага дома культуры **інж. Мікола Бушко**, які нядаўна вярнуўся са Злучаных Штатаў Амерыкі, адведаў нашу рэдакцыю і перадаў ліст і грошы ад нашых амерыканскіх суайчыннікаў. У лісце яны пішуць:

**„Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у Саўт Рывэр, Н. Дж., ахвяроўвае на газэту „Ніва" суму 100 амэрыканскіх даляраў.**

**Жадаем Вам вялікіх посьпехаў.**

**Старшыня — ЖОРЖ НАУМЧЫК".**

За ахвяраваныя грошы сардэчна дзякуем і паведамляем, што купілі мы за іх два журналісцкія дыктафоны.

**РЭДАКЦЫЯ**

# „ЗОРКА"

Уважлівы чытач „Нівы", які заглядае ў рэдакцыйную стопку на 12-ай старонцы, напэўна ўжо заўважыў, як шмат змянілася ў ёй за апошні час. Старых прозвішчаў усё менш, прыходзяць новыя, маладыя людзі. Вось адыйшла ўжо на пенсію і Яніна Чэрнякевіч — апошняя з журналістаў-першапраходцаў. 31 год прапрацавала яна ў „Ніве".

Прыйшла ў рэдакцыю ў кастрычніку 1959 года, калі „Ніве" было тры з паловай гады. Трэба было заступіць Валянціну Жэшка на карэкце, бо Валя якраз нарадзіла сына. Так ужо і засталася яна ў рэдакцыі. На першых пачатках дзённы кабінет галоўнага рэдактара „Нівы" стаўся ад вечара да раніцы домам Чэрнякевічаў...

Толькі адзін год працавала Яня карэктаркай, пасля стылістам. Патрэбны быў чалавек на „Зорку". Многія браліся за гэты лісток для дзяцей — і Зося Бусловіч, і Вера Валкавыцкая, і нават, здаецца, Сакрат Яновіч, але ніхто не меў цярплівасці сканцэнтравацца цалкам на дзіцячай тэматыцы. Удалося гэта Яні, і наступныя 30 гадоў сваёй журналісцкай працы яна амаль без рэшты прысвяціла выхаванню беларускіх дзетак не толькі Беласточчыны, але і Беларусі ў духу замілавання да ўсяго роднага, а перш за ўсё пашаны да мовы і культуры бацькоў.

Дзіцячы дадатак да „Нівы" — „Зорка" інфармаваў чытача аб тым, як жывуць тут беларускія дзеці, расказваў пра іх вучобу, штодзённыя радасці і клопаты. Дапамагаў наладжваць пісьмовыя кантакты паміж беларускімі дзецьмі з абодвух бакоў дзялячай іх граніцы. Вучыў дзяцей заўважаць прыгажосць, быць добрасумленным, адданым сваёй справе. Знаёміў іх з лепшымі творамі беларускай дзіцячай літаратуры. Навучаў добрай беларускай мове. Выхоўваў на патрыётаў.

Дзіцячы дадатак „Зорка" стаў неабходным навуковым дапаможнікам на ўроках беларускай мовы ў падставовых школах. А Яню Чэрнякевіч пачалі запрашаць на ўсе важнейшыя мерапрыемствы ў школы Беласточчыны, дзе вучылі беларускую мову. Яе так і звалі: „Зорка". „Зорка" прыехала!" — цешыліся дзеці, калі бачылі журналістку ў школе.

Яня не магла ўседзець даўжэйшы час у рэдакцыі, каб не паехаць да „сваіх" дзяцей. Не ведаю, ці засталася яшчэ нейкая наша школа, дзе не пабывала б за гэтыя 30 год Яніна са сваім неадлучным фотаапаратам у пошуках тэмы для сваіх дзіцячых рэпартажаў.

Амаль ніхто з нас не ўмеў пісаць для дзяцей так, як яна, а калі здаралася і іншым штосьці напісаць, дык Яня найчасцей гэты матэрыял мусіла грунтоўна перарабляць, „адаптаваць" для дзяцей.



*Галоўны рэдактар „Нівы" Віталій Луба дзякуе Яніне Чэрнякевіч за яе шматгадовую працу.*

Павырасталі ўжо і героі яе рэпартажаў, і былыя „Зорчыны" карэспандэнты, а некаторыя з іх сталі нават нашымі рэдакцыйнымі калегамі. А „Зорка" надалей застаецца патрэбнай. І ў гэтым яе сіла.

Часамі Яня выбіралася ў камандзіроўку „па дарослы матэрыял". Асабліва любіла ездзіць з Верай Валкавыцкай. Вера, гэта ведалі ўсе, умела знаходзіць матэрыял на дарозе, даслоўна пад нагамі. Але пісаць часамі ленавалася. „Напішы ты, Яня", — прасіла яна, і Яня пісала. Яе матэрыялы — ці былі для дзяцей, ці для дарослых, у „Ніву", — заўсёды былі глыбокія зместам і перапоўненыя цеплынёй.

Заўсёды знешне спакойная, Яніна пачынала моцна хвалявацца толькі тады, калі бачыла нейкія неправідловасці, людскую крыўду, несправядлівасць. Часамі вылівала сваю горыч на паперу, бароначы пакрыўджаных. Але дзеці яе „нерваў" не адчулі ніколі.

У сувязі з пераходам Яніны Чэрнякевіч на пенсію, што ж можна зычыць ёй на будучыню? Думаю, што не павінна яна цалкам парываць з тымі справамі, у якія ўлажыла на працягу многіх год столькі сэрца і працы. Яны надалей клічуць цябе, Яня!

**Ада Чачуга**
**Фота Здзіслава Лянкевіча**

# СМУТАК ПАСЛЯ БАЛЮ

Суботні вечар 12-га студзеня 1991. „Беларускі навагодні баль", які адбыўся ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве ў тую ноч не быў падобны на ранейшыя, што арганізаваліся беларускаю грамадою, з агульна прысутным энтузіязмам, асабліва моладзі.

Сёлета не віталі гасцей, як калісь, сінявокія ветлівыя хлопцы ў народнай вопратцы, што руплівa адводзілі кожнага на яго месца з пажаданнямі прыемна правесці вечар. Быццам дробязь — але запамяталася. Зараз той нашай моладзі не было „на лякарства", быццам іх вымела. Дзверы сцярог наняты „выкідайла", што адрываў купоны ад білетаў (не запрашэнняў) і... правальвай.

Ды сама арганізацыя імпрэзы стала, згодна з моднымі сёння тэндэнцыямі, „бізнесам" аднаго чалавека, што ўзяў на сябе труд і рызыку мерапрыемства, уключна з яго матэрыяльнымі, а, такім чынам, і маральнымі вынікамі. Хоць браткі-беларусы далёка не састаўлялі большасці прысутных, то аднак трэба аддаць справядлівасць, што арганізатар задбаў пра тое, каб сустрэчы не пазбавіць беларускага акцэнту, ды забяспечыў месца таксама, а можа перадусім, украінскім матывам. Дасканала ўзброеныя музыкальнай тэхнікай хлопцы, ад пачатку да канца былі верныя ў сваім музыкаванні ўкраінскім мелодыям.

На балі прысутнічалі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Алесь Баршчэўскі і сакратар ГП Віктар Стахвюк з жонкамі. Старшыня, старым звычаем, у цёплых словах, прывітаў прысутных з новым годам і перадаў навагоднія пажаданні. Вось тут і аб'явіўся характар публікі. Частка гасцей прыняла пажаданні воплескамі; гэта былі пераважна беларусы. Іншая частка — лічыла лішнім нават падняцца ад сталоў ці спыніць спажыванне ежы і напіткаў на час прывітання. За маімі плячамі жанчына звярнулася да свайго партнёра: „Po jakiemu on gadał i w ogóle kto on taki?"

Беларускі акцэнт увялі воранаўскія „Лявоны", што дзякуючы стараннням культурнага дзеяча Дома савецкай культуры (вядомага ўжо з ахвярнасці ў акцыі „Дзеці Чарнобыля") — Уладзіміра Карольчука наведалі Варшаву і былі арганізатарам запрошаны на баль. Вакол іх, галоўным чынам, аб'ядналася тая грамадка беларусаў у супольных народных песнях. Воранаўскія хлопцы падтрымалі беларускі дух сустрэчы, але не паменшылі факту, што сустрэча тая была не першым сімптомам дэзінтэграцыі беларускай грамады ў Варшаве, ды не толькі. У часе, калі еднасць іншых нацыянальных меншасцей у Польшчы не без прычыны замацоўваецца, варта над гэтай некарыснай для беларускага асяроддзя з'явай падумаць і нешта зрабіць, пакуль яшчэ не позна.

**Янка Жамойцін**




**( З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 33 —**

Не прыймалі (эсэры і камуністы — рэд.) таксама былых афіцэраў арміі Карнілава, Дутава, Калчака або Юдзеніча. Ахвотна за тое вербавалі ў беларускае войска былых афіцэраў і салдат савецкай арміі.

Апанаваўшы Беларускую вайсковую камісію, камуністы пачалі выкарыстоўваць яе для сваіх мэт. Агітацыйная дзейнасць у вёсках вялася наступным чынам:

Беларуская вайсковая камісія атрымала ад польскага камандавання пропускі для сваіх агентаў, якія накіроўваліся на правінцыю быццам бы для вярбоўкі добраахвотнікаў у беларускія падраздзяленні.

Камісія арганізавала для агітатараў спецыяльныя курсы. У правінцыю пасылалі толькі тых, хто на экзамене даказаў поўнае разуменне і адданасць праграме эсэраў. Да агентаў, якія накіроўваліся ў правінцыю для агітацыі, Бадунова і Якубецкі выступалі з прамовамі, даказваючы, што іх дзейнасць прыбліжае запаветны момант вызвалення Беларусі з-пад польскай акупацыі.

Забяспечаныя пропускамі эмісары ішлі ў народ, сеючы антыпольскую прапаганду, заклікалі да збройных выступленняў. Пранікалі яны таксама ў падраздзяленні, ужо створаныя Беларускай вайсковай камісіяй, і перацягвалі іх на свой бок або разганялі, калі агітацыйная акцыя не давала эфекту, карысталіся пры гэтым нават забойствамі найбольш стойкіх камандзіраў.

Апрача гэтага, эсэры памагалі фармаваць партызанскія падраздзяленні, якія на выпадак савецкага наступлення мелі дапамагаць савецкім войскам, развіваючы дзейнасць у тыле польскай арміі, сеючы хаос і неразбярыху. У хуткім часе гэта антыпольская акцыя пачала даваць вынікі. Насельніцтва пачаткова нападала на адзіночных салдат, пасля пачало нападаць на маёнткі. У адносінах паміж вёскай і маёнткамі ўзмацняўся ўсё больш яўны недавер і нянавісць.

**РАЗДЗЕЛ XVIII**

**Абвяшчэнне і раскол у Радзе Рэспублікі. Узнікненне ўрада Ластоўскага, антыпольскай Рады і Найвышэйшай рады. Арышт Ластоўскага. Выезд яго пасля звальнення ў Рыгу і Коўна. Адыход польскай арміі.**

Дзесятага лістапада 1919 года было праведзена пасяджэнне рэканструяванай Рады беларускай рэспублікі. На самым пачатку праявіўся раскол на правых, якія імкнуліся супрацоўнічаць з Польшчай, і левых, якія адкідвалі ўсякі кампраміс і былі яўна настроены супраць Польшчы.

Прадстаўнікі кампрамісных партыяў запрапанавалі паслаць начальніку дзяржавы Юзэфу Пілсудскаму прывітальную тэлеграму. Эсэры катэгарычна выступалі супраць такой прапановы. Аказалася, што Рада няздольная да ніякага дзеяння.

У выніку розніц у поглядах паміж прэм'ерам Падарэўскім і Луцкевічам не дайшло да ніякіх размоў з польскім урадам.

*(Працяг будзе)*

дэнцтва ды пацікавіцца жыццёвымі планамі.

*— Знаходзіцеся напрыканцы сваёй студэнцкай кар'еры. З якімі думкамі гледзіце на свае жыццёвыя шанцы ў варунках нашага пачатковага капіталізму?*

— Пытанне, я б сказала, безнадзейнае. Не трэба надзвычайнай здагадлівасці, каб уразумець нашу сітуацыю. Колькі гадоў тлумілі нам галовы чымсьці, што завецца эканоміяй сацыялізму, а зараз станем перад неабходнасцю распачаць працу ва ўмовах так званага вольнага рынку. Якія тут шанцы? Я сумняваюся, ці змагу працаваць звычайнай сакратаркай, у абавязку якой прымаць тэлефоны і пісаць на машыне. Калі падумаю сабе, што не засвоіла я і трэці здольнасцяў, якімі карыстаюцца ў сваёй працы сакраткі ў заходніх краінах, дык і гэтая магчымасць небяспечна ад мяне аддаляецца. Сягоння падставай усяму англійская мова і праца з камп'ютэрам, а мая школа не прычынілася аваладанню ні першым, ні другім у ніякаданай ступені. Для прыкладу, на занятках па інфарматыцы паказвалі нам, якую кнопку трэба націснуць, каб на экране нешта паказалася. Такі вось узровень.

*— Але ўсё-такі былі, бадай, і станоўчыя бакі адукацыі ў вышэйшай навучальнай установе?*

— Зразумела, што былі. Аднак, пашукаць іх трэба ў зусім іншым вымярэнні ўсяго пытання, вымярэнні, якое ў матэрыяльным свеце альбо маргінальнае, альбо цалкам без значэння. Неаспрэчнай каштоўнасцю адукацыі ў вышэйшай навучальнай установе з'яўляецца для мяне задавальненне з факту, што я ўвогуле наважылася на гэтую справу ды пакаштавала чагосьці, што назвала б іншым жыццём. Парадаксальнасць маёй цяперашняй сітуацыі поўнасцю дайшла да маёй свядомасці, калі я аднойчы недзе прачытала, што ўсім, якіх выключылі са студэнтаў з прычыны палітычнай эканоміі сацыялізму альбо іншых прадметаў падобнага характару, трэба выплаціць матэрыяльную кампенсацыю, вярнуць іх у студэнты ды бясплатна забяспечыць нейкім добра напісаным падручнікам эканоміі, каб прынамсі пад канец нечага навучыліся і не кампраметаваліся ў далейшым жыцці.

*— У Польшчы адбыліся стрымгаловыя пераўтварэнні эканамічнага ладу. Факт гэты мусіў нейкім чынам адлюстравацца ў вашай навучальнай праграме...*

— Са сваіх назіранняў бачу, што прафесары робяць ліхаманкавыя старанні, каб змяніць гэтую праграму...

— Дапасоўваюць свае лекцыі, так сказаць, да патрэб бягучай хвіліны.

— Так, выступаюць з такімі, разумееш, адмысловымі лекцыямі, у часе якіх разглядаюць, прыкладова, план Бальцэровіча — якія ў ім хібы, чаму немагчыма яго ўжыццявіць і гэтаму падобнае. Трэба сказаць, што прафесары сапраўды робяць захады, каб навесці нейкі парадак у навучанні эканоміі, але большасць з іх, такое маю ўражанне, не робіць адпаведных вывадаў ні са сваёй працы, ні з гэтых стараннаў.

*— Дык як вы ацанілі б ступень прыгатаванасці вашых прафесараў да навучання капіталістычнай эканоміі?*

— Думаю, што найлепш яны самі сябе ацанілі. Адзін вядомы прафесар, выкладчык Галоўнай эканамічнай школы, сцвердзіў, што насамперш мусіў бы шмат папрацаваць, каб самому добра ўразумець падставы капіталізму, а пазней ужо з глуздам навучаць студэнтаў. Прызнаўся проста, што непадрыхтаваны ён да такой справы. І ўсё.

*— А з якімі спадзяваннямі можа глядзець у сваю будучыню студэнт юрыдычнага факультэта? Прадчуваю тут больш аптымізму.*

— Сапраўды, думаю, што перада мною адчыняюцца шырокія перспектывы. Для прыкладу: банкі...

— Маеш на ўвазе рабунак?

— Хаця б, але гаворачы ўсур'ёз, уся справа ў тым, каб рашыцца на адну з магчымых дзялянак гэтай прафесіі: падатковае права, фінансавае, міжнароднае, банкавае, гандлёвае... Ёсць з чаго выбіраць.

*— Можна ўрэшце займацца юрыдычнай парадай для бізнесменаў!*

— Ніякіх перашкод. Сягоння гэта самы лепшы спосаб, калі хочаш стаць машынай, якая таўчэ грошы. Складанасць падатковай і крэдытнай сістэмы прычынілася да таго, што кожны, хто ўзначальвае сваё прадпрыемства, або ўжо займаецца гешэфтам — бязрадны. Юрыст яму неабходны, як паветра звычайнаму чалавеку. Без юрыста не змогуць весці сваіх інтарэсаў і дзяржаўныя прадпрыемствы. Ну, вось, я б у такой кароткай форме намеціў свае перспектывы. Падрабязнае распавяданне не ўнясе тут новай якасці. Да таго ж разумею, што табе як журналісту цікавей было б паслухаць пра недахоп жыццёвых перспектыў у свайго размоўцы. Дарэчы, у якой газеце будзе змешчаны гэты матэрыял?

*— Калі хопіць натугі, каб запісаць пачутае тут, дык у Беластоку. Да таго — на беларускай мове. Мушу сцвердзіць, што польскамоўная прэса нейк забыла пра вас і пра вашы студэнцкія справы. Газеты ўсю ўвагу **адводзяць палітычнай сенсацыі**, скандалам, таннаму эратызму. Гэта мая рэфлексія з беластоцкага панадворка. Што ж, дзякую ўсім вам за выказванні.*

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтара


*Аляксандр Уласаў (справа) у 1926 годзе.*

лодеченский уезд считался поляками самым революционным. Когда не предвиделось конца польской оккупации — я поддерживал контакт с бывшими учениками и внушал им революционную бодрость.

14. Не уплатил польского займа 100 зл. на войну и попал на черную доску. 4 дня дали, чтобы представил 60 пуд. жыта. Грозили Картуз-Берёзой. Вдруг радость. Пальба на границе. Пришла Красная Армия и спасла Зап. Белорусь.

15. Батрацкий Комитет как народному интеллигенту дал мне 5 гект. земли, временное управление Радошкович затвердило это.

16. Но тов. Комиссар в Радошковичах сказал мне, что я помещик (60 гект. земли), и сказал немедленно покинуть Миговку, но на несколько дней отложил.

17. Мне 65 лет; я имею архив. документы и фотографии.

18. Хочу продолжать писать свои воспоминания, обнимающие 35—40 лет, разные эпохи и людей для поучения молодежи. Завтра еду в Молодечно и может быть в Вильно. Пишу Вам, может быть Вы окажете мне помощь, чтобы я не оказался „Королем Лиром“ из Шекспира. Мы с женой так втянулись в крестьянскую работу (в особенности Олег и Дима)** как будто век там живём. Вчера крестьяне узнали о том, что меня выгоняют из Миговки, мысль эта их поразила, как гром. Жена хотела бы сделать школу в Миговке. Она была учительницей. Я тоже хотел бы где-нибудь в библиотеке, чтобы мог писать. Выйти из Миговки придется, как стоим, все оставили в поле.

Всю жизнь я работал бесплатно. Если пользовался прибавочной стоимостью рабочих из Миговки — за это моя работа для того же народа.

Пишу Вам письмо на случай, если я не попаду в Вильно. Если приеду, остановлюсь в „Гатель Купецки“ Садовая 8. Жму Вашу руку, Алекс. Власов.

Пишу по-русски, ибо на этом языке я подал просьбу в Молодечно „Часовому кіраўніку Маладзечанскага павету“.“

Неўзабаве пасля перадачы гэтага ліста А. Уласаў быў арыштаваны. Дакладная дата арышту невядомая. Ведаем, што было гэта ў 1939 г. Сядзеў у Вілейцы, у той самай турме, што Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, рэдактар газеты „Der Tag“ Залман Рэйзен. У „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва“ (т. 5, стар. 360) чытаем, што памёр А. Уласаў 11 сакавіка 1941 года. Адкуль гэта вестка і дзе быў ён пахаваны — таксама невядома.

Ад сем'яў Самойлы, Луцкевіча, Рэйзена вядома, што арыштаваных у 1939 г. трымалі ў Вілейцы да пачатку вайны ў 1941 г. Потым усіх сталі высылаць на ўсход. Хто не меў сілы ісці, гінуў у дарозе.

Можа дзесьці захавалася аўтабіяграфія А. Уласава, якую пісаў у астрозе. Добра было б яе дастаць.

Сёння, калі ведаем, якімі спосабамі кіравалі Сталін і яго памагатыя, гэты ліст А. Уласава можа нам здацца нейкі дзіўны, а нават „дурны“. Але гэткімі былі дзеячы ў той час. Усё сваё жыццё, сэрца і сілы аддавалі свайму народу, служылі яму, як толькі ўмелі, а хто такі Сталін і ягоныя памочнікі — не ведалі.

**Аляксандра Бергман**

* *Памылка. „Наша Ніва“ стала выходзіць у 1906 годзе.*

** *А. Уласаў доўга не жаніўся. Лічыў, што сям'я перашкаджае ў агульнагрмадскай справе. Алег і Дзіма, відаць, сыны яго жонкі.*




**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА, МАРФАЛОГІЯ.**

**15. Злучнік.**[1]

Злучнік — службовая часціна мовы, якая служыць для сувязі членаў сказа, частак складанага сказа, самастойных сказаў і паказвае на адносіны паміж імі: *Вакол жа было ціха і спакойна* (К.Ч.) — злучнік *і* звязвае аднародныя члены сказа; *Тут не аралі, бо і гэты палетак адводзіўся пад новабудоўлю.* (Кул.) — злучнік *бо* злучае часткі складанага сказа і паказвае на прычынныя адносіны паміж імі. *Насустрач хмары паплылі, і стала ўраз цямней.* (Бач.) — злучнік *і* аб'ядноўвае простыя сказы і складаназлучаны сказ і паказвае на прычынна-выніковыя адносіны.

Злучнікі падзяляюцца на некалькі разрадаў, у залежнасці ад іх паходжання, саставу, ужывання і функцыянальнага значэння.

Паводле *паходжання* злучнікі падзяляюцца на *невытворныя* і *вытворныя*.

*Невытворныя злучнікі* не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы і ўспрымаюцца як першапачатковыя: *а, але, бо, ды, і...*

*Вытворныя злучнікі* паходзяць ад іншых часцін мовы:

— займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў: *што, таму што, як, калі,*

— дзеясловаў: *хоць, хаця* (ад *хацець*), *калі, няхай,*

— назоўнікаў: *раз,*

— часціц: *ці, бы, толькі,*

— спалучэння розных часцін мовы: *затое (за тое), для таго каб, як бы, тым часам як, нягледзячы на тое што, з прычыны таго што* і інш.

Паводле саставу злучнікі падзяляюцца на *простыя* і *састаўныя*.

*Простыя злучнікі* складаюцца з аднаго слова (*а, але, што, як*), а *састаўныя* — з некалькіх слоў (*таму што, для таго каб, у той час як*).

Паводле ўжывання злучнікі бываюць *адзіночныя, паўторныя* і *парныя*.

*Адзіночныя злучнікі* — словы, якія ўжыты ў сказе адзін раз для спалучэння аднатыпных членаў сказа. Як адзіночныя найчасцей выступаюць злучнікі: *а, але, ды,* напр.: *Цяпер на палях гарыць не барвовае полымя бітвы, а вясёлы агонь суніц* (Бур.).

*Паўторныя злучнікі* — словы, якія паўтараюцца пры кожным аднародным члене ці пры кожнай часцы складанага сказа. Толькі паўторнымі з'яўляюцца злучнікі: *то-то ці то — ці то, не то — не то, ні-ні,* напр.: *То яго звадзіла рэха, то спаць зоры не давалі, то яго паліла сонца, то завеі асыпалі.* (М. Т.). Іншыя злучнікі могуць выступаць і як паўторныя, і як адзіночныя, напр. злучнік *і*: *Сонца шчодра асвятляе лес і дарогу, і кожны куточак, і кожную галінку, і кожную касматую снегавую шапку на палях.* (Лыньк.) *Грай Сымонка, а дзед слухаў і ківаў у такт яму.* (К-с).

*Парныя злучнікі* складаюцца з дзвюх частак, адна з якіх адносіцца да аднаго члена сказа або да адной часткі складанага сказа, а другая — да другой. Гэта такія злучнікі, як: *не толькі — але і, не толькі — а і, калі — то, калі — дык, як — так і, толькі — як, не то што — а, не то што — але, (а) раз — то* і інш. *Раз ужо Пракоп хоча азнаёміцца з калгасам, то мінуць гэты будынак яму не выпадае.* (К-с).

[1] Літаратура:

П. У. Сцяцко, Злучнік, у: Сучасная беларуская літаратурная мова пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 215—221;

Беларуская мова пад рэд. А. М. Клячко, т. 1, Мінск 1982, с. 305—311;

М. С. Яўневіч, П. У. Сцяцко, Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы, Мінск 1980, с. 184—243.

[2] П. У. Сцяцко, ... с. 216.




Не ведаю, Сэрцайка, як гэта здарылася, але здарылася. Два гады я хадзіла са сваім хлопцам і на восень меў ужо быць шлюб. Я жыву ў Беластоку, а ён 60 кіламетраў ад Варшавы. Сустракаліся, аднак, штотыдзень. У адну суботу ён прыязджаў да мяне, а ў другую я ехала да яго. Калі мы пазнаёміліся, то вучыліся яшчэ; я была ў школе, а ён — у тэхнікуме. Сустрэліся, калі зімовай парою завезлі нас на адпачынак у горы. Неяк адразу пасябравалі. Я нават не думала, што нешта з гэтага выйдзе, бо жывем жа далёка адно ад другога. А вось жа выйшла каханне.

І так пастанавілі мы ўзяць шлюб восенню 1987 года. Аднак жа, майму хлопцу надарылася аказія паехаць у Амерыку і зарабіць трохі граша. Ён добры фах мае, ў бацькі ёсць прыватная майстэрня. Мае ж бацькі жывуць вельмі скромна: бацька ўжо пенсіянер, а маці працуе прыбіральшчыцай. І я падумала: няхай едзе! Мне ж бацькі нічога вялікага ў пасагу не дадуць, дык прынамсі будучы муж заробіць на пачатак нашага жыцця. Потым вернецца, возьмем шлюб і будзе працаваць разам з бацькам.

Спачатку лісты з Амерыкі прыходзілі вельмі часта, а пасля пачалі прыходзіць штораз радзей, а ўрэшце мой хлопец перастаў пісаць зусім. Я вельмі занепакоілася гэтым. Знаёмыя, якія таксама там працавалі, пісалі мне, што нешта там не так. І тады я вырашыла зрабіць усё, каб паехаць і высніць гэтую справу. Я ж сядзела тут, вучылася па-божаму, за хлопцамі не разглядалася, чакала свайго хлопца. А ён там?

Прыехаўшы ў Амерыку, я адразу накіравалася пад адрас майго хлопца. Страшная справа, але застала ў яго дзяўчыну, якая была таксама з Польшчы і прыехала ў Амерыку, так як і ён, каб зарабіць. Было гэта летам 1989 года і гэты дзень упісаўся жалобнай датай у маё юнацтва. Я ў Амерыцы вытрымала толькі два тыдні. Не скажу, дазволіў мне жыць у яго, і тая дзяўчына больш пры мне не паяўлялася, але аб нейкай блізкасці ці рэалізацыі нашых планаў ужо нават мовы не было.

Я вярнулася, разбітая маральна, дадому і пачала жыць сваім жыццём. Мае бацькі таксама вельмі перажылі маю трагедыю. Бедная мама, яна ж ужо мне пасцель нарыхтавала і іншыя рэчы, патрэбныя ў гаспадарцы, купляла.

І вось нядаўна я атрымала ад свайго хлопца пісьмо, у якім ён перапрашае мяне за ўсё, што зрабіў мне ён калісьці, і просіць, каб я прыехала да яго і там бы мы ўзялі шлюб, бо ён наважыўся застацца за граніцай. Я анямела ад здзіўлення. Успомніліся ўсе мілыя часіны, якія спалучалі нас, і ў першы момант я хацела ехаць. Але пасля ў памяці ўсплылі і іншыя моманты, а асабліва той, калі прыехала я ў Амерыку і ўбачыла, што ён там робіць. І цяпер вось сяджу і думаю, ці ёсць сэнс прыстаць на яго прапанову... Падкажы, Сэрцайка!

**Галіна**

Галінка! А што з той дзяўчынай, з якой ён быў летам 1989 года? Ці ўжо зарабіла і вярнулася дахаты? А мо выйшла замуж за іншага? А мо і зусім ёй не трэба было выходзіць, бо ў хаце чакаў муж і дзеці? Чаму гэта ён раптам адчуў сябе такім самотным на чужыне, што ізноў успомніў пра цябе і вырашыў напісаць такі сардэчны ліст?

Калі ты маеш гонар, дык не павінна прыставаць на яго прапанову. Хіба што хочаш вырвацца ў шырэйшы свет. Але будзе гэта ўжо, здаецца, звычайная здзелка... Ну, што ж, і так бывае!

**Сэрцайка**




**ФАРШЫРАВАНАЯ КАПУСТА**

На 1 кг валошскай капусты (можна выкарыстаць таксама белакачанную) трэба ўзяць 30 дэкаў змеленага мяса (найлепш свініны ці курацiны), 5 дэкаў капчонага бачку, 1 булку, 3/4 шклянкі малака, 2 шклянкі булёну або адвару з гароднiны, 5 дэкаў саланiны, 4 цыбуліны, 2 морквы, паўкілаграма свежых ці марожаных памідораў, 5 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац, 1 яйка, 1 лыжку масла ці маргарыну.

Зняць з капусты верхняе пашкоджанае лісце, спаласнуць качан. У вялікай каструлі закіпяціць пасоленую ваду. У кіпецень палажыць качан капусты, абварыць яго на працягу мінут 10—15, а тады выняць з вады і адцадзіць. Абабраць цыбулю, спаласнуць, дзве цыбуліны дробна пасячы і ступіць на саланіне. Калі цыбуля будзе жоўтая, зняць з агню. Ачысціць і нарэзаць бачок. Булку намачыць у малацэ, выцiснуць яе і расцерці або змалоць у мясарубцы. Да падсмажанай цыбулі дадаць бачок і змеленае мяса, крыху тушыць, перамяшаць з булкай, яйкам і 3 лыжкамі пасечанай пятрушкі. Дадаць па смаку соль і перац. Асцярожна разгарнуць лісце капусты, паміж пасобнымі лісткамі класці фарш. Капусту можна сфаршыраваць інакш: зрэзаць верхнюю частку, асцярожна выразаць сярэдзіну, напоўніць фаршам. У кожным выпадку галоўку капусты з фаршам трэба старанна абвязаць баваўнянай ніткай. Капусту палажыць у каструлю, даліць гарачага булёну ці гароднiннага адвару, дадаць 2 дробна пасечаныя цыбулі і пасечаную моркву, а таксама лыжку тлушчу. Варыць пад пакрыўкай каля 30 мінут. Калі ёсць свежыя памідоры, дык памыць іх, нарэзаць і дадаць да стравы. Калі яны разварацца, выняць капусту шырокай лапаткай і пералажыць у круглы посуд, які ставім на пары, накрыўшы. Соус праціраем праз сіта, дадаем соль і перац. Тады капусту паліваем соусам. Падаем страву з варанай бульбай. Калі няма свежых памідораў, можна замяніць іх марожанымі або кансерваванымі. У крайнім выпадку можна выкарыстаць таксама таматны канцэнтрат ці перацёр сваёй работы.

**Гаспадыня**




Астроне мілы, сніцца мне такі сон. Быццам бы бачу я нейкую страху ад дома. Уласна кажучы, я ведаю, што ёсць тут дом, але відаць толькі страха. І вось я бачу, што гэтая страха пакрыта нейкімі дошкамі замест гонтамі ці чарапіцай. Між гэтымі дошкамі вялікія дзіркі, а я паўзу па гэтых дошках уверх. Мне вельмі цяжка і страшна. Не толькі гэтыя дзіркі мяне пужаюць, у якія я магу ў любы момант праваліцца, але і дошкі пада мною ўгінаюцца, калі я лезу па іх. Урэшце неяк улезла я наверх і там чакаў мяне мой сябра. На гэтым прачнулася.

Што датычыцца другога сну, дык ужо сама не ведаю, што пра яго думаць. Быццам мы з маім мужам і мачыхай недзе адпачываем летам. І раптам я бачу, што мой муж купіў два кілаграмы памідораў. Гляджу, а на другі дзень ён ізноў купіў два кілаграмы. Я падумала: кудысьці ён ходзіць і носіць гэтыя памідоры, бо ён жа памідораў не любіць. Тады і пытаю, каму ён гэтыя памідоры купляе. А ён мне адказвае, што сабе. Во, бачыш, што я сам ем. І ў гэты момант узяў адзін вялікі памідор і ўкусіў з апетытам. Але я яму ўсё ж не паверыла, і мы з мачыхай пачынаем яго шукаць. Ходзім з ёю, мне цяжка. І раптам я ўжо адна. Выйшла на бераг мора, а зямля пада мною такая пульхная, мяккая, быццам пух стала. Я іду далей і бачу, што ля мора людзі ляжаць і загараюць, а навокал шмат воднай пары, а мне лёгка і прыемна. Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Марта**

Марта! Першы сон абазначае для цябе небяспеку, спалучаную з нейкай стратай. Аб гэтым сведчаць асабліва тыя дзіркі між дошкамі і тое, што цяжка было табе лезці наверх. Але ўсё ж ты ўлезла наверх і там чакаў цябе твой сябра. Пазбудзешся клопатаў!

Што датычыць другога сну, дык і ён абазначае нейкую няшчырасць, мо нават здраду. Аднак жа мяккая, як пух, зямля і марскі бераг ды лёгкасць, з якой ты ішла, гарантуюць табе перамогу.

**Астрон**

# Зорка

## Старонка для дзяцей



На партах перад дзяўчынкамі з пачатковай школы ў Нарве —„Беларускія народныя казкі".
Фота Я. Максімюка

## Крылатыя госці

У наш агародчык прылятаюць частавацца птушкі, асабліва зімой, калі мух, чарвячкоў і іншага птушынага харчу не дастаць. У нас багацейшае месца пажывіцца. Аматараў паласавацца скарынкай, сухаром, кавалачкам бульбы склікаць не трэба — госць беспамылкова выявіць, дзе і калі паяўляецца страва. Каля плота, куды выкідаем рэшткі са стала, бывае шумна і весела: цінькаюць сініцы, паказваюцца паважныя снегіры, але найбольш — вераб'ёў.

Зімой пяцігадоваму Паўліку вельмі падабаецца любавацца птушкамі з акна. Ён цярпліва

(Працяг на стар. 10)



## У страха вочы вялікія

(латышская казка)

Жылі ў адной гаспадыні курачка Чубатачка, сем другіх курачак, белы пеўнік ды карова Лысуха.

Вось аднойчы раніцай панесла парабчанка пойла Лысусе, спынілася на хвілінку з парабкам пагаварыць. Стаіць ненапоеная Лысуха ў стойле, пойла чакае. Чакала-чакала і ўзлавалася — колькі можна! Са злосці падняла яна на рогі сваю кармушку і шпурлянула на ўсю сілу ў дзверы. Дзверы насцеж адчыніліся.

А Чубатачка на куросанні сядзела, драмала. Пачула яна грукат, убачыла спрасонку святло. Спалохалася.

— Так-так-так! Канец свету прыйшоў! — закрычала яна — Куд-куд-куды цяпер уцякаць?! Ратуйся хто-хто-хто можа!..

Звалілася яна з куросання, выскачыла яна на дрор і кінулася ўцякаць. Сем курачак ды белы пеўнік — за ёй, і ўсе крычаць:

— Куд-куд-куды цяпер падзецца?

Сядзеў на сцяжынцы кот Інцыт, лапай мыўся. Наляцелі на яго курачка Чубатачка, сем другіх курачак ды белы пеўнік. Спалохаўся Інцыт, поўсць наставіў, хвосцік падняў трубой:

— Мя-я-яў! Што здарылася?

— Ка-ка-канец свету прыйшоў! — крычыць белы пеўнік.

Што тут рабіць? Кінуўся нямыты Інцыт следам за пеўнікам.

Сядзеў на выгане сабачка Кранцыт, костачку грыз. Наляцелі на яго ўсе ўцекачы. Спалохаўся Кранцыт. Падхапіўся, хвост падціснуў, костачку кінуў:

— Ах, ах, ах! Што з ваў-ваў-ваў-вамі?

— Ці ма-а-ала што! — крычыць кот Інцыт. — Хіба ты не чуў, што канец свету прыйшоў?

Чаго ж тут чакаць? Кранцыт і пра костачку забыў — хай валяецца! — і галодны пабег следам за Інцытам.

Ляжаў на дарозе шэранькі ваўчок, на канюшынавае поле пазіраў — ці не пакажацца зайчык. Наляцелі на яго курачка Чубатачка, сем другіх курачак, белы пеўнік, нямыты Інцыт ды галодны Кранцыт. Падхапіўся воўк, вочы вылупіў, зубы выскаліў, спалохаўся:

— Уу-у-уу! — кажа. — Чаму-у-у вы ўцякаеце? Ку-уу-уды?

— Ах! ах! ах! — адказвае Кранцыт. — Куды давядзецца! Хіба ж не чуў, што канец свету прыйшоў?!

Ах ты, бяда якая! Кінуўся тут воўк за Кранцытам. Ліха з ім, з зайчыкам, хай застаецца там, дзе быў!

Рыжахвостая лісічка-сястрычка на ўскрайку пшанічнага поля сядзела, курапатак падпільноўвала. Наляцелі на яе курачка Чубатачка, сем курачак, белы пеўнік, нямыты коцік Інцыт, галодны сабачка Кранцыт ды пустабрухі шэранькі ваўчок. Спалохалася лісіца, да

(Працяг на стар. 10)

Уладзімір Мацвеенка

## Загадкі

### Зайкі-загадайкі

55

Коўдру, крупы, бохан хлеба —
Я ўмяшчаю ўсё, што трэба.
А сам еду на спіне.
Хто я, ведаеш ці не?

56

Носік, ручкі, ножкі мае,
Хоць яна і не жывая,
Кожны дзень са мной гуляе.
Адкажыце, хто такая?

57

Мае колы — ды не паравоз.
Мае стужку, але не матрос.
Музыкай частуе ён,
А завуць...

58

На дзве нагі пакладзены,
Радочкам перакладзіны.
На апошнюю як стану —
Зверху яблыкі дастану.

59

Што за кола, што за кола?
Шмат жывёл стаіць наўкола...
Коні, поні і гепард,
Слон, вярблюд і леапард.
Селі дзеці на звяроў:
— Ну, браток, бывай здароў!
І такі ўзялі разгон —
Толькі вецер наўздагон.

Адказ на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 50. Экскаватар. 51. Піла. 52. Кручок. 53. Прас. 54. Мяч.

## Для самых маленькіх

Ганна Іванова

### Задача

У трох лісак
Было сем ірысак.
Дзве з'елі.
Адна растала.
Яшчэ адна —
Прапала.
А палавінку
Павесілі на галінку.
Колькі ірысак
Засталося ў лісак?

### Апельсіны

Прыляцела з Нью-Йорка
На радзіму вавёрка,
У лапках —
Для Зіны
Два апельсіны.



Малюнак Марты Аляксеюк з Храбалоў.

## Вершы Віктара Шведа

### РАСТУЦЬ МАМЕ ЗУБКІ

**Бедненькая мама**
**Маленькага Сашкі**
**З хворымі зубамі**
**Уздыхнула цяжка.**

**— Церпіш вельмі многа,**
**Матуля-галубка,**
**Дык гэта нічога —**
**Растуць маме зубкі.**

### МАЛА І МНОГА

**— Скажы ты мне, Верка —**
**Матуля спытала, —**
**Пятнаццаць цукеркаў**
**Гэта шмат, ці мала?**

**— Калі дасць мне хтосьці —**
**Дык мала, убога.**
**Я дарую госцю —**
**Гэта вельмі многа.**

## Крылатыя госці

**(Працяг са стар. 9)**

чакае, калі на куст бэзу прыляцяць сініцы са светлымі шчочкамі — яны ахвотна дзяўбуць крошкі. Потым — снегіры, у якіх за каўнярамі — чырвоныя сурвэткі. Гэтыя — любяць семечкі... Паўлік назірае за імі і ўсміхаецца: ён іх бачыць, а яны і не здагадваюцца, што Паўлік бачыць усё...

Вераб'і паяўляюцца рэгулярна — ведаюць, калі людзі ў сваім доме канчаюць абедаць. Прылятае па дзесяць-пятнаццаць задзірыстых крыкуноў. Праганяе іх час ад часу суседскі кот — прабуджаюцца ў ім драпежніцкія цягі і ён пачынае паляванне. Тады птушыны гоман пераходзіць у лямант — спалоханы, трывожны і ваяўнічы. Так злосныя і ўстрывожаныя вераб'і страшаць і адганяюць нахабніка!

На месца вераб'інага абедавання прылятаюць і сарокі — вялікія, элегантна і чыста апранутыя ў чорнае з белым. Гучна крычаць, пранікліва стракочуць. Ядуць хутка і многа, не зважаючы на пакрыўджаных сваякоў. Адна сарока, найбольш паваротлівая і спрытная, хапае лепшыя кавалкі сухароў проста з-пад дзюбаў сваіх сяброўак...

Ёсць на што глядзець хлопчыку! **Янка Целушэцкі**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, зав. Карбышава, д. 2, кв. 24. **Дзячэнка Сяргей** (12 гадоў).

## Паглыбляй свае веды

### ЛЫСУХА

Лысуха — гэта птушка з сям'і жураўлепадобных. Пастаянна жыве ў Еўразіі, Паўночнай Афрыцы і Аўстраліі, на Беларусі выступае пералётны і пралётны від. Жыве на азёрах, затоках, старых рэчышчах, балотах, зарослых трыснягом і чаротам. Корміцца мяккай воднай расліннасцю, лічынкамі насякомых, дробнымі малюскамі, рыбай. Народная назва — лыска, вадзяная курыца, лысоха.

Даўжыня цела лысухі — 38--45 см, апярэнне —цьмяна-чорнае, на брушку з шараватым адценнем. На лобе — белая „бляшка" — голая (лысая) мясціна скуры (адсюль назва). Пальцы з плавальнымі перапонкамі. Дзюба кароткая, белая. Лапы шэрыя. У маладых птушак горла і пярэдняя частка шыі белыя, бруха шэрае. У негняздоўны час лысуха трымаецца чародамі. Добра плавае і ныряе, на сушу амаль не выходзіць. На вадзе падобная на качку, хвост апускае ў ваду, плывучы, увесь час ківае галавой. Узлятае з вады цяжка, з разгонам. Голас лысухі — звонкае „кек" або „кірэк". Лысуха прылятае ў пачатку красавіка — маі. Гнёзды закладае ў берагавых зарасніках трыснягу, рагозу, асакі. Нясе ў маі 5-10 (да 15) шаравата-вохрыстых з дробнымі цёмна-карычневымі крапінкамі яец. Птушаняты выводзяцца ў чэрвені, пуховыя, чорныя, з аранжавымі кольцамі вакол вачэй. Лысуха адлятае ў верасні-кастрычніку. Зімуе на поўдні Каспія і ў вадаёмах Сярэдняй Азіі.



## Вясёлы куточак

Мама пытае Пецю:

— Адкуль у цябе такі вялікі сіняк на лобе?!

— Ад думання! Думаў, што Алік не пападзе мне абледзянелай снежкай у лоб.

✲

Цёця прынесла Петрыку атлас свету.

— Беражы яго. Я маю гэты атлас яшчэ з маіх школьных часоў...

— Цёця, а ці Амерыка там ужо ёсць?..

✲

У панядзелак, на першым уроку, Пеця шэпча суседу:

— Коля, якая гадзіна?

— Дваццаць хвілін на дзявятую.

— Божа, як гэты тыдзень валачэцца!

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

**Пішуць табе вучні чацвёртага класа пачатковай школы ў Дубяжыне.**

**Наша школа — новая і прыгожая. Усе вучні сочаць за парадкам. Класы — чыстыя і светлыя, прыгожа таксама навокал школы. Мы ахвотна ходзім у нашу школу. Вельмі любім заняткі па беларускай мове, якія вядзе Сцяпан Бурыла. Любім таксама гульні на калідоры.**

**Часта арганізуем розныя ўрачыстасці. Цяпер рыхтуемся да ёлкі. Шчыра запрашаем „Зорку".**

**Вучні чацвёртага класа з Дубяжына.**

### ПРА ВЁСКУ ХІЛЬМОНЫ

**Паўстала ж наша вёска Хільмоны вось як. Тут, над ракой Сідрай, пры трактавай дарозе, мелі ятвягі карчму. Пры ёй былі і падворак, і хлявы розныя, куды і заехаць на адпачынак можна было б падарожным. Гаспадар карчмы, ятвяг, прывёз аднойчы з паходу на Палессе дзве сям'і палонныя, каб яму ў карчме працавалі. І называліся тыя палонныя Хільмонамі. Разрасліся тыя сем'і, распладзіліся, але і яны самі сябе, і суседнія сёлы ўсё ж звалі іх Хільмонамі. І хоць цяпер у нашых ваколіцах такіх прозвішчаў няма, але ў назве нашай вёскі яны захаваліся.**

**(З кнігі „Легенды і паданні")**

## У страха вочы вялікія

**(Працяг са стар. 9)**

зямлі прыціснулася, вочы зажмурыла.

— Што, што, што такое? — пытае.

— Хіба ты, сястр-р-рыца, не чула, — закрычаў на яе воўк, — што канец свету прыйшоў?

Што тут рабіць! Забыла лісічка-сястрычка і пра курапатак, хвост распушыла, вушы прыціснула — кінулася следам за ваўком. Беглі-беглі ды не заўважылі, як трапілі ў сажалку, у якой хутаране лён мачылі, — толькі пыркі паляцелі. Вылезлі з вады, пачалі сяк-так атрасацца.

Лісічка-сястрычка азірнулася па баках — бачыць, белы свет стаіць, як стаяў, — усё на месцы. Тут яна накінулася на ваўка:

— Хто табе сказаў, што канец свету прыйшоў?

— Сабачка Кр-р-р-ранцыт!

— Сабачка Кранцыт, хто табе сказаў, што канец свету прыйшоў?

— Кот Інцыт.

— Кот Інцыт, хто табе сказаў, што канец свету прыйшоў?

— Ці ма-а-а-ала хто! Белы пеўнік, сем курачак ды курачка Чубатачка! — кажа бедны Інцыт.

Ляснула тут зубамі лісічка-сястрычка.

— Дзе! Дзе! Дзе курачка Чубатачка, сем курачак ды белы пеўнік?

Азірнуліся — нікога няма...

А курачка Чубатачка, сем курачак ды белы пеўнік — ужо даўно каля сваёй кармушкі. Калі курыца крычыць: „Куд-куд-куды бегчы?" — то заўсёды дадому, да кармушкі прыбяжыць.

Узлавалася тут лісічка-сястрычка ды я-ак хопіць ваўка за загрывак і давай калашмаціць ды прымаўляць:

— Не вер балбатні, не вер бязглуздым чуткам!

Узяўся тут шэранькі ваўчок за сабачку Кранцыта, а галодны Кранцыт — за нямытага Інцыта:

— Не вер, не вер!

Яны, здаецца, і да гэтага часу не памірыліся.

".д.ацясцілаггЙаох

✲

На занятках адчытайце казку па ролях.

„Зорка" чакае вашых малюнкаў. Найцікавейшыя ілюстрацыі казак будзем публікаваць.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Якога рысунка з першай кар цінкі не хапае ў другой?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

